● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

25 ліпеня 1996 г.
чацвер, № 187 (22990)



# ЗВЯЗДА

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

## ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 56 КАМПЛЕКТАЎ УЗНАГАРОД ПАСЛЯ ЧАТЫРОХ ДЗЁН СПАБОРНІЦТВАЎ

Atlanta 1996

| № п/п | Назва краіны | Медалі: Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗША | 9 | 12 | 3 | 24 |
| 2. | Расія | 9 | 5 | 2 | 16 |
| 3. | Польшча | 5 | 2 | 2 | 9 |
| 4. | Кітай | 4 | 5 | 3 | 12 |
| 5. | Францыя | 4 | 3 | 6 | 13 |
| 6. | Італія | 3 | 2 | 3 | |
| 7. | Карэя | 3 | 1 | 3 | 7 |
| 8. | Турцыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 9. | Бельгія | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 10. | Ірландыя | 2 | - | - | 2 |
| 11. | Новая Зеландыя | 2 | - | - | 2 |
| 12. | ПАР | 2 | - | 1 | 3 |
| 13. | Куба | 1 | 4 | 2 | 7 |
| 14. | Японія | 1 | 2 | - | 3 |
| 15. | Аўстралія | 1 | - | 4 | 5 |
| 16. | Украіна | 1 | - | 2 | 3 |
| 17. | Румынія | 1 | - | 1 | 3 |
| 18. | Коста-Рыка | 1 | - | - | 3 |
| 19. | Казахстан | 1 | - | - | 1 |
| 20. | Арменія | 1 | - | - | 1 |
| 21. | Германія | - | 6 | 9 | 15 |
| 22. | Беларусь | - | 3 | 1 | 4 |

## ІДЭАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**Менавіта такую тэму мела прэс-канферэнцыя, якая адбылася ўчора ў прэс-цэнтры сталічнага Дома прэсы. На сустрэчу з журналістамі прыйшлі памочнік Прэзідэнта Алег Слука, а таксама двое з распрацоўшчыкаў канцэпцыі ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці спадары Міхаіл Ермаліцкі і Аляксандр Юркевіч.**

Удзельнікі гутаркі падкрэслілі, што гэтай сустрэчай пры дапамозе друку яны хочуць пачаць шырокае абмеркаванне вынікаў сваёй працы ў грамадстве. Адначасова яны пастараліся запэўніць, што іх распрацоўкі не нейкія надуманыя, а з'яўляюцца патрабаваннем часу, што ідэалогія беларускай дзяржаўнасці — вельмі актуальная праблема, якая сапраўды патрабуе вырашэння. З гэтай мэтай яны заклікалі да ўдзелу ў абмеркаванні палітычныя партыі, навукоўцаў Беларусі. Паводле іх слоў, хутка работа будзе выдадзена ў выглядзе брашуры. У заканчэнне яны прывялі, здаецца, самае дакладнае выказванне, якое можа вырашыць лёс іх работы: «Ідэалогія можа быць толькі тады прынята, калі яе ўспрыме большасць грамадства».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*РЭПЛІКА*

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання**

## працуе выключна таямніча?

«Звязда» жадае быць аб'ектыўнай. У асвятленні клопатаў, звязаных з сёлетнім ураджаем, сёлетняй уборкай збожжавых — таксама.

За падрабязнасцямі «Звязда» звярнулася ў штаб па ўраджаю (створаны ён у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання). На тэлефонны запыт нам адказалі, што, магчыма, нейкія лічбы будуць заўтра (гэта значыць, сёння. Што ж, будзем спадзявацца).

Паспрабавалі высветліць нешта, што датычыць гатоўнасці тэхнікі, непасрэдна ва ўпраўленні сістэм машын, машынабудавання і тэхнічнага сервісу (кіраўнік яго — Уладзімір Бурдыка). Не атрымалася. Інфармацыі для журналістаў тут няма. Хаця ж (калі верыць папярэдняй тэлефоннай інфармацыі) адзін з кіраўнікоў (здаецца, Франц Мінько — начальнік Галоўнага ўпраўлення тэхнічнага прагрэсу) даў усё ж інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню. На жаль, вашаму пакорнаму слугу — карэспандэнту «Звязды» — давялося ці не тры гадзіны праблукаць па калідорах міністэрства ў пошуках лічбаў (а яны добра вядомы, у прыватнасці, і Анатолю Шчурэвічу — галоўнаму інжынеру таго ж упраўлення сістэм машын, машынабудавання і тэхнічнага сервісу) пра гатоўнасць тэхнікі. Ды не выдаў Анатоль Аляксандравіч дзяржаўнай тайны. Праўда, адмаўляў, трэба заўважыць, тактоўна, спасылаючыся на адсутнасць вышэйшага дазволу. Апошняга ж не ўдалося дабіцца і журналісту: усе кіраўнікі альбо на нарадах, куды ніяк не патрапіць і на хвіліну, альбо ў камандзіроўках.

Сведка таго чакання і блукання — памочнік міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



*Знаёмцеся: медыцынскія сёстры Галіна Нікіценка і Алена Касымава. Працуюць яны ў Смаргонскім тэрытарыяльна-медыцынскім аб'яднанні. Справу сваю ведаюць бездакорна, акрамя таго, надзвычай добразычлівыя і прыветныя — а гэта, згадзіцеся, заўжды як самыя лепшыя лекі.* **Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

*ВІЗІТ*

## *АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:* «БЕЛАРУСЬ БАЧЫЦЬ У ТУРЦЫІ ПЕРСПЕКТЫЎНАГА ПАРТНЁРА І ГАТОВА ВЕСЦІ ДЫЯЛОГ ПА ЎСІХ ПЫТАННЯХ, ШТО ПРАДСТАЎЛЯЮЦЬ УЗАЕМНУЮ ЦІКАВАСЦЬ»

«Я, напэўна, не памылюся, калі скажу, што афіцыйныя беларускія дэлегацыі — не частыя госці ў Турцыі. Гэты першы ў гісторыі нашых узаемаадносінаў афіцыйны візіт на вышэйшым узроўні цалкам заканамерны. Ён абумоўлены неабходнасцю вываду адносінаў паміж нашымі дзяржавамі на якасна новы ўзровень развіцця». Такімі словамі пачаў сваё выступленне Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка перад сустрэчай сам-насам з кіраўніком Турцыі Сулейманам Дэмірэлем.

Менавіта перагаворы з прэзідэнтам Турэцкай Рэспублікі сталі асноўным пунктам праграмы візіту ў гэту краіну на чале з Аляксандрам Лукашэнкам дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі, якая прыбыла ў Анкару 24 ліпеня. У яе саставе — міністр замежных спраў Уладзімір Сянько, міністр знешніх эканамічных сувязей Міхаіл Марыніч, міністр унутраных спраў Валянцін Агалец, член Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Анатоль Малахоўскі.

«Мы прыехалі з тым, каб пацвердзіць нашу гатоўнасць да раўнапраўнага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, — падкрэсліў кіраўнік беларускай дзяржавы. — Наша стратэгія знешняй палітыкі грунтуецца на прынцыпах адкрытасці і шматвектарнасці, імкненні да шырокамаштабнага міжнароднага супрацоўніцтва».

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, запланаванае ў ходзе гэтага візіту падпісанне цэлага шэрага двухбаковых дакументаў, у тым ліку самага важнага — Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве — сведчыць аб плённым і канструктыўным характары беларуска-турэцкіх адносінаў і закладвае трывалы фундамент у працэс наступнага расшырэння і паглыблення двухбаковага супрацоўніцтва. Як лічыць Прэзідэнт, змест дагавора непарыўна звязаны з задачамі эканамічнага развіцця Беларусі, якія накіраваны на павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва ў цэлым.

Аб'ём тавараабароту паміж нашай рэспублікай і Турцыяй у 1995 годзе склаў амаль 53 мільёны долараў ЗША, што, на думку Аляксандра Лукашэнкі, значна ніжэй за тыя патэнцыяльныя магчымасці, якія ёсць у абедзвюх дзяржаў. Таму што Турцыя сёння выпускае высакаякасную, канкурэнтаздольную на сусветным рынку прадукцыю, а ў нашу рэспубліку пастаўляюцца, за невялікім выключэннем, толькі тканіны і кандытарскія вырабы.

Шматлікая і наменклатура беларускага экспарту — у асноўным, гэта валокны і ніткі. «Відавочна, што нам неабходна перагледзець і дыферэнцыраваць спіс экспартна-імпартнай таварнай прадукцыі, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — А для развіцця экспарту, прыцягнення турэцкіх інвестыцый і тэхналогій у беларускую эканоміку, якія, нягледзячы на падпісанае Пагадненне аб узаемным садзейнічанні і ўзаемнай абароне інвестыцый, сёння практычна адсутнічаюць, неабходны моцныя і пастаянныя палітычныя кантакты». Паводле слоў Прэзідэнта, дынамічны рост эканамічных адносінаў паміж таваравытворцамі Беларусі і Турцыі патрабуе ад урадаў абедзвюх краін асаблівай увагі да каардынацыі сувязей, рэгулярнага абмену інфармацыяй, вывучэння попыту і прапанавання на ўнутраных рынках.

Кіраўнік нашай дзяржавы згадзіўся з думкай турэцкага боку, што кіраўніцтва абедзвюх дзяржаў чакае яшчэ вялікая сумесная работа па ператварэнню ў жыццё як падпісаных ужо дагаворанасцей, так і тых, што намечаны да падпісання ў час цяперашняй яго сустрэчы з панам Дэмірэлем. Прэзідэнт лічыць, што гэта збалансуе адносіны паміж Беларуссю і Турцыяй на ўсіх узроўнях і ў розных сферах супрацоўніцтва.

Немалаважным, на думку Аляксандра Лукашэнкі, для грамадзян абедзвюх дзяржаў стане і Пагадненне аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання. Падпісанне гэтага дакумента ажывіць тавараабарот паміж дзяржаўнымі структурамі і паміж прыватнымі камерцыйнымі фірмамі, паколькі зніме многія гандлёвыя бар'еры на шляху таварнай прадукцыі.

Прэзідэнт Турцыі Сулейман Дэмірэль адзначыў, што асноўным крытэрыем нацыянальнай палітыкі краіны з'яўляецца ўстанаўленне дружалюбных адносінаў з новымі дзяржавамі, якія атрымалі сваю незалежнасць у выніку распаду СССР.

— У гэтай сувязі мы надаём асаблівае значэнне развіццю нашых адносінаў з Беларуссю, — падкрэсліў ён.

Паводле слоў кіраўніка Турцыі, дзяржава надае асаблівае значэнне ўмацаванню Беларусі як маладой незалежнай дзяржавы, падтрымлівае намаганні рэспублікі ў ажыццяўленні палітычных і эканамічных рэформаў і інтэграцыі ў сусветнае супольніцтва. «Мы верым, што ўсе ўказаныя пераўтварэнні пойдуць на карысць беларускаму народу, рэгіёну, Турцыі і сусветнаму супольніцтву ў цэлым. І верым, што пасля гэтага візіту кіраўніка беларускай дзяржавы ў Турцыю пачнецца новы перыяд ва ўзаемаадносінах нашых краін», — заявіў Сулейман Дэмірэль.

У час асабістай гутаркі з прэзідэнтам Турцыі Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што расшырэнне беларуска-турэцкага супрацоўніцтва залежыць не толькі ад нашай краіны. «Мы гатовы на самае глыбокае супрацоўніцтва, на якое толькі здольна турэцкая дзяржава. У эканоміцы гэта супрацоўніцтва трэба наладжваць як мага хутчэй, каб пазбегнуць усякіх непаразуменняў у палітычных і эканамічных узаемаадносінах паміж нашымі дзяржавамі», — сказаў Прэзідэнт Беларусі.

Пасля заканчэння перагавораў кіраўнікоў дзвюх дзяржаў сам-насам дэлегацыі Беларусі і Турцыі абмеркавалі перспектывы развіцця ўзаемаадносінаў паміж дзвюма краінамі ў расшыраным саставе. Пасля гэтага адбылася цырымонія падпісання пакета беларуска-турэцкіх дакументаў.

У першы дзень візіту ў Турцыю Аляксандр Лукашэнка ўсклаў вянок да магілы заснавальніка і першага прэзідэнта Турэцкай Рэспублікі Ата цюрка і зрабіў запіс у Кнізе ганаровых гасцей.

Анкара. **Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## СПІКЕР У ГАСЦЯХ У ТРАКТАРАЗАВОДЦАЎ

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі працягвае наведванне буйных прадпрыемстваў краіны. Учора адбыўся яго візіт на Мінскі трактарны завод.**

Разам са спікерам па вытворчых і эксперыментальных цэхах прадпрыемства прайшлося яго кіраўніцтва, прадстаўнікі міністэрстваў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дэпутаты Вярхоўнага Савета. Дарэчы, падрыхтоўка да наведвання завода адбылася не без актыўнага ўдзелу сп. Красуцкага, дэпутата Вярхоўнага Савета ад Трактаразаводскай выбарчай акругі. Сямён Шарэцкі пазнаёміўся з вытворчасцю, з новымі распрацоўкамі трактаразаводцаў, наведаў галоўны канвеер, паспеў пагутарыць з людзьмі і адказаць на іх пытанні.

Хаця, вядома, больш дэталёвая гутарка адбылася пасля абходу цэхаў, у канферэнц-зале завода на сустрэчы з прафсаюзным актывам прадпрыемства. Кіраўнік беларускага парламента падзяліўся сваімі ўражаннямі ад убачанага і пачутага і расказаў пра дзейнасць Вярхоўнага Савета ў сферы эканамічнага развіцця краіны, ці, дакладней, у справе выхаду з эканамічнага крызісу. Ён адзначыў, што заводу неабходна адаптавацца да тых умоў, у якія ён трапіў, выпускаць менавіта такую колькасць прадукцыі, якая можа быць куплена, трэба знаходзіцца ў пастаянным пошуку як рынкаў збыту, так і новых распрацовак, якія маглі б зацікавіць большае кола пакупнікоў. С. Шарэцкі падкрэсліў, што трэба мяняць ранейшую псіхалогію, паколькі далей «твар прамысловасці будуць вызначаць сярэднія і малыя прадпрыемствы».

Кіраўнік парламента закрануў і палітычны бок сённяшняга жыцця ў краіне. Асабліва яго непакояць адносіны двух галін улады — выканаўчай і заканадаўчай. «Канфрантацыя настолькі ўзмацнілася, што гэта пачало замінаць спакойнай, прадуктыўнай рабоце абедзвюх галін улады», — сказаў ён і дадаў, што Вярхоўны Савет са свайго боку імкнецца згладжваць вострыя вуглы ў гэтых складаных узаемаадносінах, але такіх жа намераў пакуль не адчуваецца з адваротнага боку. Пасля выступлення С. Шарэцкі адказаў на пытанні ўдзельнікаў сустрэчы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 261

**Аб назначэнні А. Ю. Сазонава міністрам прадпрымальніцтва і інвестыцый Рэспублікі Беларусь**

Назначыць Сазонава Аляксандра Юр'евіча міністрам прадпрымальніцтва і інвестыцый Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

19 ліпеня 1996 г. г. Мінск.

## АФІЦЫЙНА

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Драздоў Анатоль Іванавіч вызвалены ад пасады намесніка міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь у сувязі з пераходам на іншую работу (пункт 5 часткі першай артыкула 29 КЗаП Рэспублікі Беларусь).

**БЕЛТА.**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

23 ліпеня пад старшынствам Сямёна Шарэцкага адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Даклад аб выніках першай сесіі трынаццатага склікання вышэйшага заканадаўчага органа краіны, якая доўжылася шэсць месяцаў, зрабіў намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка.

Адзначалася, што на працягу паўгоддзя дэпутаты працавалі вельмі плённа: прынята 54 законы і больш за 200 пастаноў. Парламентарыі праявілі высокі прафесіяналізм, грамадзянскую адказнасць за стан спраў у рэспубліцы, здольнасць адмовіцца ад карпаратыўных інтарэсаў. Першая сесія ўнесла значны ўклад у пабудову прававога грамадства, дазволіла падысці да самых складаных пытанняў, звязаных з рэфарміраваннем эканомікі.

Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета карэспандэнту БЕЛТА, Сямён Шарэцкі канстатаваў, што Вярхоўны Савет трынаццатага склікання ніколі ні ставіў сваёй мэтай «быць вышэй за ўсіх», а дзейнічаў строга ў рамках Канстытуцыі, узважана, і рабіў усё магчымае, каб не толькі не распальваць, але і як мага хутчэй гасіць нікому не патрэбную канфрантацыю паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, якая час ад часу яму навязвалася. Ён таксама падкрэсліў, што з боку Вярхоўнага Савета прыкладваюцца вялікія намаганні дзеля наладжвання канструктыўнага супрацоўніцтва ўсіх галін улады. Такім паслядоўным, як гаварылася на пасяджэнні, парламент павінен застацца і надалей.

Вырашана другую сесію Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання адкрыць 2 верасня 1996 года.

Прэзідыум адобрыў прыкладны пералік каля 100 пытанняў для ўключэння ў павестку дня восеньскай сесіі, якая працягнецца амаль чатыры месяцы.

Плануецца, што на працягу яе работы будуць разгледжаны праекты законаў, звязаныя з рэфарміраваннем эканомікі, сацыяльна-эканамічным становішчам грамадзян, нацыянальнай бяспекай, барацьбой са злачыннасцю. Сярод іх — законапраекты аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Беларусі і свабодных эканамічных зонах, аб прадпрымальніцтве і спрашчэнні сістэмы падаткаабкладання для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, праекты Падатковага кодэкса і бюджэтнай сістэмы.

На чарговай сесіі мяркуецца разгледзець праекты закона аб забеспячэнні насельніцтва лекамі, стварэнні новых працоўных месц, праект Жыллёвага кодэкса і многія іншыя.

Прэзідыум унёс таксама змены ў састаў рабочай групы Вярхоўнага Савета па супрацоўніцтву з бундэстагам Федэратыўнай Рэспублікі Германія, разгледзеў пытанні ўзнагароджання Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь групы працаўнікоў аграрнага, будаўнічага комплексаў, а таксама навукова-педагагічных работнікаў.

**БЕЛТА.**

# Вёскі Чарнічкі чарнічнай парой

**Як узнікаюць журналісцкія тэмы? Для мяне гэта найчасцей камандзіроўка, пісьмо альбо званок з таго ці іншага месца. Аўтобусы цяпер ходзяць рэдка, таму падарожнічаць даводзіцца на аўтамабілі. І тут не абыдзешся без карты. Дзякаваць Богу, цяпер яны сталі не сакрэтнымі, нават самыя падрабязныя.**

Неяк даўно разгледзеў на карце Віцебшчыны ў Докшыцкім раёне на ўскрайку Бярэзінскага запаведніка аднолькавыя назвы вёсак. Чарнічка 1-я, Чарнічка 2-я, Чарнічка 3-я — выстраіліся яны па беразе Беразіны. Чаму Чарнічкі, можна зразумець: кругом лес, запаведнік, багаты, напэўна на ягады край. Але ўсё-такі — першая, другая, трэцяя. І вось самай чарнічнай парой выбраўся-такі ў гэтую няблізкую дарогу.

Край гэты лясны і маланаселены. У асноўным людам праваслаўным. Бліжэйшы храм у Тумілавічах, тут і сельскі Савет.

Ну а самі вёсачкі зачаравалі. На астраўках сярод лесу пяць-шэсць хат, дзе жывуць у асноўным пенсіянеры. З трох вёсак толькі два чалавекі ходзяць за Бярэзіну ў мясцовы калгас імя Гагарына. Летам, праўда, крыху багацеюць хаты на маладыя галасы — прыязджаюць сваякі ды ўнукі. Багата летам было ў лясах і гасцей з гарадоў, з таго ж Мінска. Але цяпер ягаднікаў, грыбнікоў ды рыбаловаў стала значна менш. Праблемы з палівам, напэўна. Побач — прыгожае возера Медзазол, праз якое працякае Беразіна. Рыбнае яшчэ возера, гавораць. Менавіта гэта возера і выбралі паны, якія пабудавалі на яго берагах два фальваркі. Адзін з паноў Юзэфовіч быў адстаўным царскім генералам. За службу, напэўна, пажалавалі яму тутэйшай зямлі, лесу. Запрасіў пан лесніка Шнітко, якога пасяліў на месцы цяперашняй вёскі Чарнічка 1-я. Адсюль і пайшоў род Шнітко ў вёсцы. Называлася, праўда, яна раней інакш. Бацька былой настаўніцы, а цяпер пенсіянеркі Ганны Герасімаўны Шнітко меў у метрыцы ад 1890 года запіс: месца нараджэння вёска Грыбло. Дарэчы, і астатнія Чарнічкі людзі называюць між сабой падаўнейшаму — Ігнаценкі, Казлы. Хто і чаму перайменаваў іх, невядома. Ды толькі Аркадзь Хрысціянавіч Шнітко, які нарадзіўся ў 23-м годзе, калі тут панавала Польшча, у сваёй метрыцы ўжо мае месцам нараджэння Чарнічку 1-ю.

Адным словам, вёскі досыць не старыя, мінулага стагоддзя. Працавалі тут людзі на зямлі, якая была небагатай, трымалі жывёлу, займаліся промысламі, каб пракарміць сябе і сям'ю. Пасля Рыжскай мірнай дамовы, калі Польшчы адышла частка Беларусі, менавіта тут пралягла мяжа. Чарнічкі апынуліся на Захадзе, а суседнія вёскі на Усходзе. Там будуюць новае жыццё, а тут усё нібыта па-старому, толькі пад іншым арлом. З боку Саветаў мяжа ахоўвалася строга. Заставы, дрот. З боку Польшчы толькі парныя патрулі праз некалькі кіламетраў. Але мяжу пераходзілі. Праз асушаныя цяпер балоты пераходзілі мясцовыя жыхары. Радня па абодва бакі, ды і іншыя інтарэсы. Але на ўсходзе жыццё мянялася. У вёсках помняць, як, бывала, на Вялікдзень ідуць яны на могілкі, якраз уздоўж мяжы. А на тым баку ў полі калгаснікі — рэлігійныя святы былі забароненыя. Ну і крычаць ім праз дрот заходнікі: «Прывітанне, кум!» «Хрыстос уваскрос». З іншага боку поўнае маўчанне, людзі стараюцца адысці далей ад мяжы. За слова можна было трапіць у Сібір. А неяк трапіла туды моладзь з захаду. Вечарыны былі, ну пятнаццаць чалавек з гармонікам рушылі туды, дзе працаваць не трэба, а кормяць бясплатна. Перайшлі. Чатырнаццаць чалавек як польскіх шпіёнаў і адправіліся праменька ў халодныя краі. Некаторыя вярнуліся дадому толькі пасля вайны. Пятнаццаты, Сцёпка Вашчонак, уцёк і вярнуўся дадому адразу. Але два месяцы правёў у польскай турме, білі за тое, што хадзіў да Саветаў.

У вайну Чарнічкі таксама апынуліся паміж двух агнёў. З аднаго — партызанская зона, з другога насядаюць немцы і паліцаі. Хаты былі папаленыя, моладзь пайшла ў партызаны. Дзмітрый Іосіфавіч Мікульскі з Чарнічак 2-х успамінае, што іх хата пры дарозе засталася цэлай толькі таму, што некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. І той, хто адбіваў яе чарговы раз, стараўся захаваць — прытулак усё-такі. Сам Мікульскі пайшоў у партызаны ў семнаццаць гадоў. Сабралі іх, няўзброеных, 700 чалавек і павялі на Вялікую зямлю менавіта за зброяй. Быў тады, у 42-м праход праз фронт. Ды толькі немцы вырашылі перакрыць яго. У азёрах на шляху партызан укопвалі і ўмаражвалі ў лёд бочкі, хавалі туды кулямётчыкаў. І тыя нечакана адкрывалі знішчальны агонь. Потым партызаны расчысцілі на возеры Медзазол, таксама побач з Чарнічкамі, пляцоўку, і самалёты сталі прывозіць сюды зброю з-за фронту.

Аркадзь Хрысціянавіч Шнітко, гэта ён пасля нападу панскіх сабак хварэў цэлы год, пайшоў у партызаны ў дваццаць гадоў. А потым мабілізавалі іх на будаўніцтва Мінскага аўтазавода, так што дадому вярнуўся толькі пасля вайны. Сеў на бацькаву гаспадарку, а тут і калгасы сталі арганізоўваць. Цяпер вось шэсцьсот тысяч пенсіі ды 60 сотак зямлі. Трымае, як і ўсе ў Чарнічках, адну карову, нейкую жывёлу яшчэ. Здае малако ў калгас — 1700 за літр. Але з кожным днём трымаць жывёлу цяжэй. І здароўе падводзіць, ды і жыццё такое. Цяпер вось, аказваецца, ён павінен плаціць падатак за карыстанне пашай, хоць і не сеяныя гэта травы. І я толькі развёў рукамі. Чалавек жыў тут ад дзяцінства. Вось навакол пятнаццаць гектараў, якія належалі яго бацьку, нават лапік лесу быў. Потым гэту зямлю калектывізавалі, потым, схамянуўшыся ці што, вярнулі нейкую частку. А цяпер вось падатак нават на пашу.

Балюча адгукнулася вайна і Ганне Аркадзьеўне Шнітко. У час блакады разам з маці яна была вывезеная ў Германію, маці працавала на заводзе «Юнкерса», Ганна, хоць было ёй 12, тут жа на падсобных работах. Калі я спытаўся пра маркі кампенсацыі — ці атрымала, горка ўздыхнула. Яшчэ ў пачатку дзевяностых пачала яна пісаць аб гэтай дапамозе, людзі, якія былі разам у палоне, атрымалі яе. А Ганна Герасімаўна чакае да гэтага часу. Засталася адна, неяк абрабляе 35 сотак. Кароўка. Няпроста былой настаўніцы.

А Бярэзіны ля вёсак Чарнічкі я не знайшоў, маніць сучасная рассакрэчаная карта. Дакладней, знайшоў крыху далей і не Бярэзіну, а канал, у які яе ўпіхнулі яшчэ ў пачатку шасцідзесятых, у час работ на торфараспрацоўках і паўсюднага асушэння. Рыбы, якой у нерат залазіла да дзвюх вёдзер, не стала, не стала, зразумела, і ранейшай прыгажосці. Канал ён і ёсць канал. Толькі дзенідзе пракідваецца старое рэчышча. Торфараспрацоўкі і меліярацыя прынеслі мясцовым жыхарам немалыя праблемы. Мікульскі з Чарнічак 2-х расказвае, што поле, якое да гэтага радзіла няблага, стала зусім пустым. Сышлі грунтовыя воды. Але нечакана ён знайшоў кампенсацыю — заліўны луг, на якім раней толькі касілі. Распрацаваў участак пад бульбу — урадзіла на дзіва. Распрацаваў яшчэ, так і атрымалася поле на былым лузе. Праўда, растуць тут толькі яравыя. Тонкі слой глебы, дакладней, сапрапеляў, а далей — шэранькая гліна.

Неяк сумнавата было развітвацца з гэтымі маленькімі вёсачкамі, з тымі, што прытуліліся ў лясах побач — Рачныя, Зацішша... Якія паэтычныя і разам з тым родныя назвы! І жывуць тут родныя людзі. Па-рознаму жывуць, у асноўным нялёгка, але не без надзеі на лепшыя часы.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Віцебская вобласць.*

*СІТУАЦЫЯ*

# НЕ ПАЧАРНЕЛА СЕРАБРО, НЕ ПАЦЯМНЕЛА ЗОЛАТА

Вялікія чэргі стаялі ў часы перабудовы каля ювелірных магазінаў. Людзі стаялі дзень і ноч. Золата было танным, і многія імкнуліся купіць яго на чорны дзень, але часцей за ўсё для таго, каб перапрадаць за мяжой, у той жа Польшчы. Тады каштоўныя металы на вітрынах не залежваліся. Усё, што блішчэла і мела пробу, імгненна расхоплівалася.

Сёння ўсё наадварот. У ювелірных магазінах не тоўпяцца людзі, хоць за шклом вітрынаў зіхаціць золата і срэбра.

Правёўшы некалькі гадзін каля скупачнага кіёска ў ювелірным магазіне, прыйшоў да высновы, што залатыя рэчы людзі здаюць ад беднасці. Жанчына-пенсіянерка прадала маленькія завушніцы, усяго два грамы, за дзвесце тысяч. Дзяўчына працягнула ў акенца тоненькі залаты ланцужок...

шэсць. Яны гандлююць не толькі залатымі рэчамі. Ёсць аддзелы, дзе прадаюць сувеніры, гадзіннікі, крышталь... Але ўвагу людзей найбольш прыцягваюць вітрыны з залатымі і сярэбранымі рэчамі, ды каралі з паўкаштоўных камянёў. У «Сапфіры» адкрыўся камісійны аддзел. Прадаваць упрыгажэнні праз камісію больш выгадна, чым здаваць у скупку. Патрыманае золата купляюць ахвотна, асабліва заручальныя пярсцёнкі. У камісійным аддзеле яны крыху таннейшыя, чым новыя. Рэалізавана тавару тут на 40 мільёнаў штомесяц у мінулым годзе, а ў гэтым прадавалася толькі на 20 мільёнаў рублёў у месяц. Спад больш чым удвая, бо за гэты перыяд цэны на золата падымаліся. Але што б там ні гаварылася, а гэта таксама сведчанне зніжэння пакупной здольнасці насельніцтва.




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА (Брэст).

З 15 ліпеня цэны на каштоўныя металы крыху падняліся і гэта выклікала некаторае ажыўленне каля скупачных кіёскаў. Цяпер золата 583 пробы каштуе на 11 тысяч даражэй.

Падышлі тры маладыя цыганкі. Усе ў золаце. У вушах адной залатыя завушніцы ў форме кляновага лісціка. Вялікія і цяжкія. Падала залаты ланцуг у палец таўшчынёю, які заважыў 146 грамаў. Мара «крутога». Праўда, хоць цыганы і частыя госці ў ювелірным магазіне, але прыходзяць найперш не для таго, каб збыць залатыя рэчы, а каб узважыць і праверыць пробу.

Неўзабаве хлопец з Івацэвічаў здаў пяць упрыгажэнняў. Сказаў, што бабка ў спадчыну пакінула. Не ведаю, як там са спадчынай, але пярсцёнак сапраўды старадаўні і з мастацкага боку цікавы. Рэчы ідуць, як лом, за паўтара мільёна. Цікава, будзе гэты пярсцёнак пераплаўлены ці застыне на чыімсьці пальцы.

Скупляюць золата па больш нізкай цане, чым прадаюць. А гэта прыцягвае да скупак хлопцаў з залатымі ланцугамі на шыі. Яны купляюць па мінімальнай, дзяржаўнай цане, але могуць і невялікую суму пераплаціць, калі рэч вельмі спадабалася. «Крутыя» вядуць сябе карэктна, без настырнасці, і калі чалавек не згодзен, то адыходзяць. Можна толькі здагадвацца колькі золата не трапляе ў дзяржаўную скарбонку. Вырашыць гэтую праблему можна, але не сілавымі метадамі. Махінацыі з золатам страцяць усякі сэнс, калі цана на яго будзе адпавядаць сапраўднай. Тут маецца на ўвазе скупачная цана, бо дзяржава прадае золата (ювелірныя вырабы) па цэнах сусветных. Калі золата самай папулярнай 583 пробы цяпер скупляецца ў межах 6 долараў за грам, то, падняўшы цану на яго да 10—12 долараў, можна ўсё паставіць на свае месцы. Паднялі ў нас цэны на золата, і вываз яго ў Польшчу спыніўся.

І ўсё ж здаюць завушніцы ды пярсцёнкі ў выключных выпадках, калі нястача моцна прыцісне. Праўда, многія і пры галечы з пярсцёнкам не развітваюцца.

Магазін «Сапфір» у Баранавічах належыць «Белювеліргандлю», і такіх магазінаў у Брэсцкай вобласці

Ёсць яшчэ катэгорыя людзей, якія хочуць праз скупку разбагацець. Забыўшы прапісное правіла савецкіх часоў, што вось так прымітыўна падмануць дзяржаву і цыгана нельга.

Купляе жанчына масіўны пярсцёнак на базары ў цыгана. Цана нізкая. Кабета бярэ гэты пярсцёнак і нясе ў скупку, бо падлічыла прыбытак, які можа мець ад гэтай аперацыі. І няўцям ёй, а чаму ж гэта цыган не бяжыць да скупкі, а таўчэцца са сваім золатам на базары? Спецыяліст у скупцы шмаргануў напільнічкам, мазнуў кіслатой і заявіў, што пярсцёнак медны, а зверху напылена золата.

Вязуць золата і з Турцыі. Мараць на ім таксама падзарабіць. Але турэцкае золата вельмі нізкай пробы і штосьці «выцiснуць» з яго немагчыма.

Папулярнымі сталі ўпрыгажэнні з серабра. Іх найперш купляе моладзь. І зноў жа, савецкае, а цяпер ужо расійскае серабро каціруецца высока.

А хто купляе сёння золата? За выключэннем маладых, якім без заручальных пярсцёнкаў не абысціся, гэта простыя савецкія людзі, якія па нейкіх там прычынах апынуліся на паверхні «сацыялістычнага рынку».

У Баранавічах за залаты ланцужок было заплачана чатыры мільёны — самая дарагая пакупка ў гэтым годзе. А вось у Брэсце за пярсцёнак з каменьчыкам выклалі пятнаццаць мільёнаў. Але Брэст — гэта брама ў СНД, і там многа прышлага народу, а наш, тутэйшы чалавек купляе залатыя рэчы, галоўным чынам, цаной да мільёна.

Як бачым, у «Белювеліргандлі» справы не зусім кепскія. У магазіны паступаюць упрыгажэнні з Італіі, Чэхіі... Але найбольш з Расіі. Дырэктар баранавіцкага «Сапфіра» Наталля Заўгародняя сказала, што сёння прыходзіцца браць сумкі і самой ехаць у Мінск за гадзіннікамі ды везці іх на электрычцы. А некалі прывозілі на машыне без лішняга клопату і турбот. Тым не менш, дырэктар ювелірнага магазіна не хацела б, каб вярнуліся застойныя часы. Бо, як бы там ні было, а сёння больш свабоды і магчымасцей...

Можа яно і сапраўды так.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# ЗАБІТЫЯ ТРОЙЧЫ

**Першы раз іх забілі фашысты. У тыя самыя гарачыя ліпеньскія дні сорак чацвёртага. Ужо быў вызвалены Мінск, ужо святочна адсалютавала Масква, а тут, на ўскрайку вёскі Карпілаўка, яшчэ шмат дзён грымелі свае салюты... жалобныя. Хавалі савецкіх салдат, што загінулі ў жорсткіх баях са звар'яцелымі ад безвыходнасці грэнадзёрамі абласканай Гітлерам крывавай 78-й штурмавой дывізіі генерала Траута, што вырываліся з Мінскага «катла».**

Толькі шостага ліпеня 1944-га тут сціхлі баі. Аплаканыя скупой салдацкай слязой, навечна ляглі ў беларускую зямлю воіны 89-га гвардзейскага мінамётнага палка легендарных «Кацюш» — гвардыі малодшы лейтэнант А. Маргалітадзе, гвардыі старшына Г. Макаранкаў, гвардыі радавыя Ф. Варанцоў, А. Філімонаў, П. Фамічоў... пехацінцы З. Авакумаў, І. Кіяткін, С. Садулаеў... Тры вялікія брацкія магілы... Сціплая драўляная тумбачка з зорачкай, агароджа, бляшаная шыльдачка з прозвішчамі...

Другі раз іх забілі пазней, у шасцідзесятыя. Ці то па ўбоству думкі, ці то па непаразуменню магілы заараў калгасны трактарыст. Апамятаўшыся — аднавілі, але сапраўднае месцазнаходжанне магіл было страчана, ды і колькі салдат і афіцэраў было тут пахавана, як аказалася, ніхто не памятае. У 1966 годзе пабудавалі манумент над мяркуемым месцам пахавання (памыліліся, на жаль, метраў на 15). На мемарыяльнай сцяне, на мармуровых дошках золатам выпісалі імёны загінуўшых воінаў і побач — ураджэнцаў навакольных вёсак, якія не вярнуліся з вайны. Іх больш за 100. Зроблена ўсё было прыгожа, з любоўю. Побач разбілі парк Памяці, зрабілі клумбы. На кожным дрэве — таблічка з прозвішчам загінуўшага...

8 мая 1996 года іх забілі трэці раз. Сярод белага дня падлеткі каламі знішчылі мемарыяльныя пліты з прозвішчамі загінуўшых. Ізноў былі забітыя Маргалітадзе, Макаранкаў, Воранаў, Філіпаў... Забіты не выпадкова, бо ўжо няма тут парка Памяці, ён ператварыўся ў жудасны лес: крапіва па грудзі, бур'ян, шчыльныя зараснікі адзічэлых дрэваў. Пра клумбы ніхто і не памятае. Надмагільны помнік над брацкай магілай разбураецца, мармуровая пліта «Вечная памяць героям, паўшым у баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы» пачарнела, з'едзена мохам... Запусценне... Лес, дрымучы лес вакол, таму і дурэюць тут прыдуркі...

Што тут скажаш... Слоў няма, засталіся адны эмоцыі...




Сорамна, балюча, жудасна... І гэта ў нас, у Беларусі... І не ў глухамані якой, а амаль у сэрцы рэспублікі — Мінская вобласць, Чэрвеньскі раён, Валевацкі сельсавет. Побач, суцэльным патокам, па шашы Мінск—Магілёў імчаць машыны...

Чым займаецца мясцовая ўлада? Чаму не выконваецца пастанова Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 85 ад 9 лютага 1996 года, дзе чорным па беламу напісана, што мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы «ажыццяўляюць мерапрыемствы па добраўпарадкаванню пахаванняў абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў і ўтрыманню ў парадку надмагільных помнікаў, помнікаў і мемарыяльных збудаванняў...» Нічога не зроблена. Ні 9 Мая, ні 22 чэрвеня ў Дзень агульнанароднай памяці і смутку, ні 3 ліпеня ў Дзень вызвалення... Толькі пластмасавы вянок у выглядзе «адчэпнага» і ўсё. Як ні горка пра гэта гаварыць, але здарылася тое, што і павінна было рана ці позна здарыцца.

**Мікалай СКУРАТОВІЧ.**

***P.S.*** *На імя начальніка Упраўлення па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў М. Ешчанкі паступіла пісьмо ад выконваючага абавязкі Чэрвеньскага райваенкамата маёра П. Чарвякова, у якім гаворыцца, што следчымі Чэрвеньскага РАУС устаноўлены віноўнік акта вандалізму. Ім аказаўся непаўналетні школьнік з г. Мінска. Бацька віноўніка абавязаўся з 10 жніўня 1996 года ў час свайго адпачынку аднавіць разбітыя мармуровыя пліты і нанесці на іх прозвішчы загінуўшых воінаў. А што ж будзе з зараснікамі «парку Памяці»? Пра гэта ў пісьме ні слова. Бацька мінскага школьніка на сябе абавязацельстваў па яго добраўпарадкаванню не ўзяў. Мясцовая ўлада, відаць, таксама. Будзем чакаць наступнага добраахвотніка?*

**ВЯДОМЫ «НУЛЯВЫ ВАРЫЯНТ» у апошніх дамоўленасцях Беларусі і Расійскай Федэрацыі закончыў нашы з ёю «ваенныя разлікі». Цяпер усё тое шкоднае і небяспечнае, што засталося на палігонах і ваенных базах пасля расійскай арміі, — гэта ўласнасць Рэспублікі Беларусь, нам самім з гэтай «маёмасцю» і разбірацца.**

**Разбірацца ж трэба як мага хутчэй, бо «нулявы варыянт» для жыхароў пэўных населеных пунктаў можа аказацца ў поўным сэнсе нулявым — і без усякіх там «варыянтаў». Гаворыцца гэта зусім не дзеля прыгожага слоўца ці каб паказытаць камусьці нервы, лішні раз папужаць людзей. Выяўляецца грозны ў сваёй відавочнасці факт: расіяне-ваенныя пакінулі нам «у спадчыну» каля васьмі тысяч тон так званага ракетнага акісляльніка з усімі яго страшэннымі «характарыстыкамі».**

**Як ратавацца ад бяды? У Беларусі на гэты конт прынята адпаведная ўрадавая праграма, прызначаны і галоўны выканаўца — Беларускі інстытут радыяцыйнай бяспекі («Белрад»). Аднак выконваць найадказнейшае дзяржаўнае заданне ў той меры, як гэтага патрабуе сітуацыя, вучоным магчымасці не даюць. Затое, калі здарыцца маштабная катастрофа, іх могуць падставіць у якасці «крайніх» — на гэта ўказваюць падзеі апошняга часу. Заслону над «кухняй» цалкам магчымага ў недалёкай будучыні скандалу прыадкрывае дырэктар інстытута «Белрад», член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі прафесар Васіль НЕСЦЯРЭНКА.**

НА ПАРОЗЕ СКАНДАЛУ

# НОВАЯ «ЦАРСКАЯ ГАРЭЛКА» — РЫЖАЯ СМЕРЦЬ



**Як выжыць насельніцтву «ў суседстве» са звышатрутнымі ваеннымі рэчывамі? Такія рэцэпты маюцца. Ёсць і спецыялісты, якія іх прапануюць. Апошнія, на жаль, зрабіць могуць нямногае, бо рукі ў іх моцна звязаны**

### ЗАМЕСТ ВАЕННАЙ АТРУТЫ — ЧЫСТЫЯ «ГРАМАДЗЯНСКІЯ» ЎГНАЕННІ

**— Васіль Барысавіч, літаральна перад нашай з вамі размовай на вашым стале спрацаваў тэлефон. Прашу прабачэння, але міжволі прыйшлося прыслухацца: адчуванне такое, быццам нейкі генерал-рубака цвёрда вырашыў паставіць вас, як маладога прызыўніка, па стойцы «смірна». Было відаць, што тэлефонная размова яўна мела адносіны да тэмы нашай з вамі сустрэчы. Зрэшты, паважаючы «тайну фірмы», на агучванні вашай «баявой» тэлефоннай спрэчкі не настойваю...**

— Па-першае, мяне ў стойку «смірна» паставіць не так ужо і лёгка. Па-другое, я маю намер раскрыць усе карты, якімі гуляюць у гэтай выбухованебяспечнай сітуацыі.

Думаю, як вучоны я абавязаны спачатку праінфармаваць чытачоў і ўвогуле «цывільнае» грамадства, што на самай справе ўяўляе сабой ракетны акісляльнік.

Калі папулярна і коратка, дык гэта тры чвэрці высокаканцэнтраванай азотнай кіслаты (98-працэнтнай) і чвэрць вокіслу азоту. Плюс розныя тэхналагічныя дабаўкі, напрыклад, плавікавая кіслата, у састаў якой уваходзіць звыштаксічны фтор. Усё разам называецца меланжам.

**— Гэта «змяіная сумесь», відаць, будзе страшнейшая за этанол — вядомую царскую гарэлку, камбінацыю салянай і азотнай кіслот, мацнейшы акісляльнік, які растварае ўсё — нават золата і плаціну. Напэўна, сёй-той памятае яшчэ, як у свой час маршал ракетных войскаў Нядзелін з супрацоўнікамі ў час аварыі на касмадроме трапіў у «штучнае возера» з таго паліва, якое раптам вылілася з пашкоджанай касмічнай ракеты. Ад людзей потым не знайшлі нават і гузіка.**

— Страшнейшую небяспеку гэтага акісляльніка можна паказаць і на іншых прыкладах. Дарэчы, на адкрытым паветры ён «дыміць» моцным рыжым шлейфам, і калі хто яго ўбачыў, то трэба бегчы хутчэй, чым ад д'ябла. І вось чаму. Дапушчальная канцэнтрацыя вокіслу азоту ў населеных пунктах складае самую мізэрную велічыню — адну двухтысячную долю міліграма на кубаметр паветра. Калі ж чалавек на вуліцы (а ў памяшканні будзе яшчэ горш) трапіць у «слабенькую хмарку», дзе канцэнтрацыя складзе да 0,2 грама на кубаметр паветра, — то адразу развіваецца ацёк лёгкіх, звычайна — са смяротным зыходам.

Ды вось і прыклад. Колькі гадоў таму ў адной з навуковых устаноў Беларусі адбылося парушэнне правілаў тэхнікі бяспекі, у выніку чаго адзін з супрацоўнікаў удыхнуў падобную сумесь — і ў той жа дзень памёр.

Магу нагадаць і аварыю, якая адбылася гадоў 15—17 таму назад у Літве на азотнатукавым заводзе, калі рыжы «хвост» вокіслу азоту дыміў на некалькі дзесяткаў кіламетраў. Добра яшчэ, што тады была нейкая дысцыпліна, працавалі службы грамадзянскай абароны — яны мабільна падняліся і так ці інакш змаглі «выхапіць» людзей з ядавітай хмары. Тады ў нашых суседзяў атручэнняў хапала, аднак смяротных выпадкаў не было. Я скажу так: нам не трэба ні таго, ні другога.

**— Да такога пажадання можна толькі далучыцца. Але ж, Васіль Барысавіч, вы вучоны і аперыруеце толькі жалезнымі, як кажуць, фактамі. Дык дзе і колькі знаходзіцца ў Беларусі такіх «падарункаў»? Наколькі надзейна запёртая ў сховішчах гэтая «рыжая смерць»?**

— Бачу, што павінен вас расчараваць. Што такое база ракетнага паліва? Па сутнасці, толькі гучная назва, не больш. Гэта проста забетанiраваная пляцоўка, агароджаная трыма радамі калючага дроту. Над металічнымі ёмістасцямі — звычайны шыферны навес, які не перашкаджае ні снегу, ні бакавому даждж у. І вось менавіта ў гэтых 100-кубовых цыстэрнах з алюмінію ці нержавеючай сталі і захаваны ракетны акісляльнік. Тэрмін службы цыстэрнаў — да 13 гадоў. Але ж ёмістасці ляжаць ужо больш як два дзесяцігоддзі! Ёсць і такія цыстэрны, якія памечаны 1965 годам! Ці ж гэта не з'яўляецца небяспекай, і колькі можна аб гэтым крычаць?

Вось такую карціну я ўбачыў у вёсцы Сялец, за семнаццаць кіламетраў ад горада Ліды. Так званая «база» знаходзіцца ўсяго за тры кіламетры ад вёскі, прыкладна столькі ж — да бацькі-Нёмана. Цыстэрнаў там не адзін дзесятак, а гэта, лічыце, да 2 тысяч тон меланжу-акісляльніка. Падобная сітуацыя на базах такога ж тыпу і каля Калінкавічаў на Гомельшчыне, каля Баранавічаў — наогул на ўскраіне горада, у Пагранічным, што прыкладна за два кіламетры ад граніцы з Польшчай, у іншых месцах. Такіх «аб'ектаў» на Беларусі больш як дзесятак.

**— А ці не раскрываем мы з вамі, паважаны член-карэспандэнт Акадэміі навук, дзяржаўныя тайны? Ці не пацягнуць нас удваіх потым у суд?**

— Калі гэта і тайна, то толькі для нашых «занадта простых» грамадзян. Пра размяшчэнне баз ракетнага паліва і сітуацыю вакол іх даўно вядома і адказным асобам нашай краіны, і беларускім вайскоўцам, амерыканскім і нямецкім спецыялістам. Тыя ж немцы з фірмы «Бук», якіх мне давялося суправаджаць у Сялец, агледзеўшы «комплекс» базы, спыталі аб мерах захавання бяспекі ваеннага персаналу. І атрымалі адказ, што ўвогуле салдаты і афіцэры змогуць уратавацца. «Хто ж будзе ратаваць вас?» — спыталі яны мясцовых жыхароў каля сельмага. «Ды, напэўна ж, ваенныя павінны забяспечыць нам абарону, мы на гэта спадзяёмся», — быў адказ сялян.

**— Усё зразумела: у выпадку аварыі падзеі будуць развівацца ў «варыянце» катастрофы. Але чаму немцы задавалі такія пытанні?**

— Вы не разумееце? Яны ж асцярожныя людзі: убачылі той самы злавесны «рыжы хвост» — з дзірак каля гарлавіны цыстэрнаў, якія паржавелі, паволі выпарваўся вокісел азоту. Гэта, дадам, адбывалася сёлетняй вясной. Цяпер паступіла куды больш злавесная інфармацыя: адна з ёмістасцей лацякла знізу. А там — 100 тон страшнейшага яду, які пасля сябе нічога не пакідае! Людзі і рака — усё захлынецца...

**— Прабачце, Васіль Барысавіч, тут у мяне няма слоў! Але ж у чытачоў знойдуцца, прадбачу, свае, і даволі моцныя словы — і «службовая халатнасць», і «злачынства» і што заўгодна. Калі ж без эмоцый, то дазвольце спытаць: хто ў рэспубліцы і што канкрэтна робіць у гэтай экстрэмальнай сітуацыі?**

— І тут я раскажу ўсё, што ведаю. Сітуацыю ў краіне ў пэўнай ступені адсочвалі — 18 кастрычніка мінулага года Кабінет Міністраў прыняў афіцыяльную «Праграму па утылізацыі ракетных акісляльнікаў тыпу меланж». Заказчыкам прызначыў Навукова-тэхнічны камітэт (НТК) Міністэрства абароны. А галоўным выканаўцам праграмы — наш інстытут «Белрад». Каштавала яна на той час 18 мільярдаў беларускіх рублёў. І тут вырас нечаканы парог: падпісаннем дакумента з боку ўрада ўсё і скончылася.

Унутраныя спружыны тады былі незразумелыя, але факт застаецца фактам: сродкі на важнейшую для краіны работу былі выдзелены (падкрэсліваю гэта!) з рэзерву Прэзідэнта — 256 мільёнаў рублёў. Толькі беларускія, відаць, спецыялісты здольны пры такім мінімальным фінансаванні выканаць складаную работу, якая ў сапраўднасці «цягне» многа больш. Але зрабілі і... засталіся вінаватыя 30 мільёнаў аднаму з ваенных прадпрыемстваў, якое дапамагала кампанаваць нашу першую ўстаноўку па знішчэнню ядавітага акісляльніка.

Зрэшты, у краінах Захаду ў большай частцы толькі тэхналогія знішчэння і ёсць. Наша ж, айчынная тэхналогія прапануе нешта куды больш цікавае.

Я асабіста маю 25 пасведчанняў на распрацоўкі па данай тэматыцы, таму НТК Мінабароны прапанаваў «Белрад» у якасці галоўнага выканаўцы тэмы, а ўрад без ваганняў зацвердзіў гэту прапанову. Па ходу размовы заўважу, што і заказчыкі ў асобе супрацоўнікаў-навукоўцаў палкоўніка Уладзіміра Марэцкага і падпалкоўніка Станіслава Пілюты папрацавалі закасаўшы рукавы. Першую ўстаноўку па перапрацоўцы акісляльніка змантыравалі на тым жа бетоне каля Сяльца — і ў лютым гэтага года ваенна-грамадзянская «каманда» адразу атрымала вынікі.

Гэты агрэгат можна называць і макетнай, і эксперыментальнай устаноўкай, але за 10 дзён работы яна «выдала» з самага ядавітага ў свеце рэчыва 6 тон вадкіх мінеральных угнаенняў. Іх ужо прымянялі ў сельскай гаспадарцы. Можна наладзіць іх вытворчасць і ў выглядзе сухога парашку — прапаную глянуць на гэтыя прабіркі. У Міністэрстве аховы здароўя, куды мы накіравалі ўзоры новай прадукцыі, канстатавалі: якіх-небудзь таксінаў і так званых цяжкіх металаў ва ўгнаеннях няма.

### НІ ДОЛАРАЎ, НІ ДОЙЧМАРАК, НІ РУБЛЁЎ

**— Можна яшчэ раз успомніць аб прынятым у Злучаных Штатах законе Нана—Лугара. Згодна з ім, Беларусі, у ліку іншых краін, павінна аказвацца дапамога (і фінансавая таксама) у ліквідацыі ракетных узбраенняў і спадарожных матэрыялаў. З узбраеннямі ўжо ўсё ясна, а вось адносіны амерыканскага боку да «беларускага» ракетнага акісляльніка не зусім зразумелыя. Асаблівай дапамогі тут пакуль што не відаць. А якая, Васіль Барысавіч, ваша думка?**

— Якія канкрэтныя факты мы тут маем? Перагаворы па нашаму сённяшняму пытанню паміж беларускім і амерыканскім бакамі вядуцца ўжо з 1993 года. У гэтым плане амерыканцы і прапанавалі нам сваю ўстаноўку, якая прызначана не для перапрацоўкі ракетнага акісляльніка, а менавіта для яго спальвання. У маі гэтага года яны прывезлі агрэгат у Беларусь, ён і па сённяшні дзень стаіць у тым жа Сяльцы — не працуе. Відаць, па тэхналогіі перапрацоўкі меланжу ён і не будзе працаваць.

У нас ёсць даволі дакладная інфармацыя з мінулагодняй навуковай канферэнцыі ў Каліфорніі ў ЗША, на якой самі амерыканскія вучоныя прыйшлі да высновы: паколькі пры спальванні ракетнага акісляльніка ў атмасферу вылятае фтор і разбурае азонавы слой, то такая тэхналогія і, зразумела, устаноўка не падыходзяць.

Наогул, амерыканскія дэлегацыі ў Беларусь прыязджалі ўжо не раз, часта бывалі і ў інстытуце «Белрад». Ездзілі яны і ў той жа Сялец, глядзелі нашу эксперыментальную ўстаноўку ў рабоце, бачылі і канчатковую прадукцыю пасля перапрацоўкі меланжу. Відаць, самі зразумелі: гэта тое, што трэба.

Адначасова амерыканцы не хавалі здзіўлення: маўляў, калі эксперыментальная ўстаноўка можа нармальна працаваць, то чаму яна цяпер стаіць без справы? Ды толькі таму, што на працяг работы не даюць ні капейкі грошай!

Увогуле ж ад амерыканскіх спецыялістаў я праблем не хаваў, сказаў прама: каб справа канчаткова не замерла, патрэбна да 40 тысяч долараў — тады можна будзе выслабаніць хоць бы адну 100-кубовую цыстэрну; калі астатнія раптам пацякуць, то іх змесціва можна было б спецыяльнымі механізмамі перапампаваць у свабодную ёмістасць.

Адным словам, з заакіянскімі партнёрамі пакуль вядуцца перагаворы. Вядомая амерыканская фірма «Х'юз» атрымала ад Міністэрства абароны ЗША дазвол весці іх на прадмет прымянення менавіта нашай тэхналогіі перапрацоўкі ракетнага акісляльніка. Выдзеляць амерыканцы пад гэты праект якія-небудзь сродкі ці не — сказаць не магу.

**— А што прапануюць еўрапейскія партнёры?**

— З'явілася ў нас і ўпамянутая ўжо нямецкая фірма «Бук» — у яе быццам бы маецца некаторы вопыт па знішчэнню падобнага акісляльніка. Яна хацела б вывезці нейкую яго частку, каб у сябе перапрацаваць зноў жа на мінеральныя ўгнаенні.

Зразумела, нам трэба карыстацца ўсялякай магчымасцю пазбавіцца гэтага меланжу разам з яго небяспечнай «аўрай». Аднак, шчыра кажучы, надзея на «нямецкі варыянт» даволі слабая: наўрад ці Польшча дазволіць правозіць звышнебяспечны груз па сваёй тэрыторыі. Адпадзе, відаць, і задумка пераво зіць цыстэрны з меланжам па моры, бо тут ужо можа запярэчыць Літва — там, безумоўна, не забылі пра аварыю на азотна-тукавым заводзе. Карацей кажучы, дзівакоў у гэтай справе мы не знойдзем: кожная дзяржава будзе абараняць сваю зямлю і свой народ ад небяспечных «рыжых хвастоў». Нам трэба турбавацца самім. І толькі самім.

**— Аднак, калі ніхто і не думае далей фінансаваць дзяржаўнай важнасці праект, то пра якія турботы і адказнасць можа ісці гаворка?**

— Падобнае бязладдзе, як ні сумна гэта гучыць, у нас называецца «прафесіяналізмам і дзяржаўным падыходам». На практыцы ж прабіваць ўсе гэтыя сцены чамусьці павінен толькі інстытут. І ўсё таму, што мы «крайнія», канкрэтныя выканаўцы.

Дзе шукаць фінансы, калі родная дзяржава нават для абароны сваіх грамадзян ад меланжавага яду грошай даваць не хоча? Вось і прыйшлося стукацца ў замежныя арганізацыі. Асабіста пасылаў пісьмовыя заяўкі ў Фонд Макартура (ЗША), у нямецкі ЭКАінстытут, што ў Дортмундзе. У красавіку пашчасціла выступіць перад дэпутатамі Еўрапарламента — і ім пакінуў пісьмовую просьбу аб дапамозе. Усе, зразумела, спачуваюць, абяцаюць нешта такое агульнае...

Канкрэтнага ж фінансавання пакуль няма — ні з замежжа, ні ад нашага Мінфіна. Справа сёння — на кропцы замярзання: сродкаў, каб распрацаваць праект «рабочай», больш магутнай устаноўкі, няма. Як і на тое, каб потым запусціць яе ў работу.

**— Дык хто ж паставіў крыж на ўрадавай праграме?**

— Я вучоны і кіраўнік інстытута, а не следчы, праводзіць расследаванні мне няма калі. Дакладна ведаю адно: тармажэнне пачалося ў адным з упраўленняў Міністэрства фінансаў — яго начальнік, як толькі недзе пачуў, што ідуць перамовы з амерыканцамі і немцамі, вырашыў: вось яны няхай і плацяць, а я гэтыя работы фінансаваць не буду!

### ШТО ЛЕПШ: СЯДЗЕЦЬ НА ПАРАХАВОЙ БОЧЦЫ ЦІ ПАКЛАСЦІ НА БОЧКУ ГРОШЫ?

**— Атрымалася, Васіль Барысавіч, што мы прыйшлі ўсё да той жа сумнай высновы: урад можа вырашаць, што захоча, а чыноўнік сярэдняй рукі перайначвае потым дзяржаўную палітыку па ўласнаму густу.**

— Гэта наша сённяшняя рэальнасць, што зробіш? Але я вырашыў так: калі за пяць месяцаў фінансісты на выкананне дзяржаўнага праекта не далі ні рубля, а ўлады патрабуюць работу, то афіцыйна паведаміў пра сітуацыю, якая склалася, заказчыку — Навукова-тэхнічнаму камітэту Мінабароны.

Паслаў пісьмовае паведамленне ў адрас міністра абароны, потым — пісьмо на імя Прэзідэнта краіны. На жаль, мае папярэджанні аб тым, што сітуацыя з кожным днём ускладняецца, пачуты не былі, ніякіх адказаў я не атрымаў.

Апошняе пісьмо днямі адвёз у прыёмную кіраўніка ўрада У ім я выказаўся прыкладна так: паколькі інстытут прызначаны адказным выканаўцам важнага праекта, а работу ніхто не фінансуе, то ў такой сітуацыі ці перанясіце тэрміны выканання, ці наогул вызваліце калектыў ад гэтага задання. Выказаў я такую думку свядома, бо не жадаю, каб потым, калі здарыцца «ЧП», пачалося шальмаванне: маўляў, Несцярэнка і яго інстытут не забяспечылі выкананне рашэння ўрада.

Відаць, сваімі пасланнямі некаму вельмі надакучыў — і атрымаў суровую вымову па тэлефоне...

**— Гэта калі вас імкнуліся паставіць па стойцы «смірна»?**

— Менавіта так. Памочнік аднаго з кіраўнікоў чамусьці вырашыў: я вінаваты ў тым, што пісьмова не далажыў, а што ж мне адказалі Прэзідэнт, міністр абароны, іншыя афіцыйныя асобы на мае звароты. Дзіўна, бо мне ніхто і не адказваў. Падобнага плана былі і астатнія «абвінавачанні».

Я ж выклаў галоўнае: мы даказалі і паказалі, што ў інстытуце не балбатуны, што тут могуць працаваць: устаноўка па перапрацоўцы меланжу ёсць, канчатковы прадукт — таксама, прычым з высокай экспертнай ацэнкай. І калі мы ўсе — сур'ёзныя людзі (а я менавіта так і думаю), то справа патрабуе толькі аднаго падыходу: грошы на бочку — і заданне праз два гады, як і прадугледжана ўрадавай праграмай, будзе выканана.

Хоць і худы дзяржаўны бюджэт, але сродкі на знішчэнне ракетнага акісляльніка, хочаш не хочаш, трэба шукаць. Бо калі тыя цыстэрны пачнуць ірвацца ад старасці, то мы атрымаем Чарнобыль «нумар два». Няўжо гэтую прапісную ісціну мне трэба выкладаць у афіцыйных пісьмах і дваццаць, і трыццаць разоў?

**Падрыхтаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# ПРАФСАЮЗЫ ДАЮЦЬ ЧАС НА РОЗДУМ. ДА ВЕРАСНЯ

**Той факт, што сёння на авансцэну грамадскага жыцця ўсё больш упэўнена выходзяць прафсаюзы, заканамерны: гэтага вымагае цяперашняе эканамічнае і, як вынік, сацыяльнае становішча ў краіне. На мінулым тыдні ў Мінску прайшла рэспубліканская нарада прафсаюзнага актыву рэспублікі, удзел у якой прынялі і прадстаўнікі ўладаў: прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка і іншыя.**

Для пачатку некалькі красамоўных лічбаў: сёння сярэдні ўзровень рэнтабельнасці прамысловых прадпрыемстваў краіны складае 8,9 працэнта супраць 10,3 працэнта ў першым паўгоддзі 1995 года. За паўтара года паступленні ў рэспубліканскі бюджэт павялічыліся ў намінальных грошах толькі на 30 працэнтаў, тады як узровень інфляцыі — у 1,7 раза. Зараз на Беларусі зарэгістравана ўжо 176 тысяч беспрацоўных, альбо 3,7 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва. Апроч таго, у бліжэйшы час чакаецца масавае вызваленне работнікаў на прадпрыемствах радыёэлектроннай, лёгкай, папяровай прамысловасці, у станкабудаўніцтве, аўтамабільным і сельскагаспадарчым машынабудаванні, металаапрацоўцы.

Нарэшце, самая балючая тэма — імкліва павышаецца запазычанасць па зарплаце. На канец чэрвеня яна наблізілася да крытычнай, трыльённай, адзнакі і складала 980 мільярдаў рублёў. Асабліва няпростая сітуацыя на Гомельшчыне і Гродзеншчыне, дзе не могуць своечасова разлічыцца з працоўнымі адпаведна 52 і 38 працэнтаў прадпрыемстваў.

Як зазначыў на сустрэчы з прафсаюзным актывам рэспублікі міністр эканомікі Георгій Бадзей, відавочна, што цяперашні год у пераходзе да новых форм гаспадарання стане пераломным. Пік падзення ўжо дасягнуты, зараз пачынаецца адаптацыя да рыначных умоў.

Безумоўна, урад прымаў і прымае меры ў паляпшэнні фінансавага становішча прадпрыемстваў. Сярод іх, напрыклад, у дакладзе прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра прагучалі такія: зніжэнне падатковага прэса (да канца гэтага года будзе распрацавана новая сістэма падаткаабкладання), змяншэнне тарыфаў на электраэнергію, увядзенне нарматыўнага размеркавання выручкі (пэўная яе частка гарантавана браніруецца пад зарплату), адтэрміноўка плацяжоў у бюджэт, урэшце — увядзенне адраснай падтрымкі некаторых прадпрыемстваў. Але, па словах прэм'ера, дзяржава ні ў якім разе не павінна выконваць абавязкі дырэктароў прадпрыемстваў. «На 10 працэнтаў ваш поспех залежыць ад урада, а на 90 працэнтаў — ад вас саміх», — сказаў з гэтай нагоды Міхаіл Чыгір.

Між тым, як вынікала з выступленняў прадстаўнікоў прафсаюзаў, урадам яны задаволены не надта. Па-першае, чуліся папрокі ў марудным прыняцці тых ці іншых рашэнняў, і па-другое — у недастаткова акрэсленай эканамічнай палітыцы.

Каб не выглядаць пры гэтым папулістамі, прафсаюзы перадалі прэм'ер-міністру і Прэзідэнту ўласныя прапановы па аздараўленню сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на прадпрыемствах. Аб іх сутнасці, у тым ліку і ў нашай газеце, паведамлялася раней, таму абмяжуемся толькі сціслым пералікам: перш-наперш гэта выяўленне прыярытэтных галін вытворчасці і рэструктурызацыя неканкурэнтаздольных прадпрыемстваў, змяненне падатковай сістэмы, абарона айчынных таваравытворцаў, стварэнне новых працоўных месц. Нарэшце, прапанавана максімальна зблізіць памер мінімальнай зарплаты з так званым пражыццёвым мінімумам.

Па словах старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзіміра Ганчарыка, яны заўсёды выступалі за дыялог з урадам. Разам з тым, ФПБ не адмаўляецца і ад іншых сродкаў барацьбы. Таму У. Ганчарык зазначыў: прыняць прапанову прафсаюзаў і зрабіць канкрэтныя крокі па паляпшэнню агульнай сітуацыі ў краіне дзяржава павінна ўжо да верасня.

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ТРАГІЧНЫ ЎЧАСТАК

**Як паведамлялася ўжо, пад Баранавічамі адбылася аўтакатастрофа. Відавочна, прэса не звярнула б на яе ўвагі, калі б не загінуў гандлёвы прадстаўнік генконсульства Славакіі ў Мінску Штэфан Лукавіны.**

Заведзена крымінальная справа, але, як думаюць у аўтаінспекцыі, ў данай сітуацыі ўсё даволі ясна. Факт выезду на сустрэчную паласу ў наяўнасці.

Хачу звярнуць увагу на самую галоўную акалічнасць. Не будзем гаварыць, у якой меры тут віна загінуўшага шафёра. Можа ён быў няўважлівы, бо стаміўся, ці па якой іншай прычыне, але, як мне сказалі ў бальніцы, менавіта на гэтым участку дарогі загінула ўжо дзесяць чалавек.

Вось ужо два гады дарогу рамантуе адна нямецкая фірма. З гэтай нагоды адна паласа аўтастрады перакрыта. І калі не звярнуць увагі на знак, то як ехаў па прамой, то і будзеш ехаць і абсалютна не прыкмеціш, што ўжо знаходзішся на сустрэчнай паласе. Дарэчы і ў мяне менавіта тут такое здарылася.

Калі машыны імчаць са скорасцю 120—140 км/гадз., то знакі ўжо за кіламетр павінны папярэджваць аб небяспечным адрэзку дарогі. І калі мы ўводзім плату за дарогу, то павінны давесці гэту дарогу да адпаведнага ўзроўню.

Жонка і сын Лукавіны з лёгкімі траўмамі галавы і паламанымі рэбрамі знаходзяцца ў бальніцы. І здароўе іх не выклікае трывогі, хаця ў пані Марты баліць шыя. Сын Любаш, студэнт 3-га курса Браціслаўскага універсітэта, ляжыць паверхам вышэй і ўжо наведвае маці.

У цяжкім стане знаходзіцца масквіч Сочын, пасажыр з «Хюндай-санаты». Увесь левы бок у яго паламаны. Ногі, перадплечча, рэбры і г. д. прынялі на сябе ўдар. Толькі на чацвёрты дзень ён апрытомнеў. Гарохаў, шафёр гэтай машыны, атрымаў некалькі сінякоў і ўжо выехаў дадому.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**
г. Баранавічы.

*УСМЕШКА МАСТАКА*





**Малюе Аркадзь САЛТЫКОЎ.**

*КРЫМІНАЛ*

# «СКАЛАЛАЗАЎ» УЗЯЛІ ПРАМА НА ДАХУ...

Дзесяць крадзяжоў учынілі «скалалазы» за апошнія паўгода ў пятым мікрараёне Гомеля. І почырк адзін і той жа, і ўкрадзеныя рэчы — радыё- і відэаапаратура. Прывязваюць вяроўку да антэны на даху шматпавярховага дома, і глыбокай ноччу спускаюцца па ёй на балкон ці залазяць праз адчыненую фрамугу ў кватэру. Крадзеж адрасны, бо ніводнага разу «скалалазы» не трапілі ў кватэру, дзе знаходзіліся гаспадары. Значыць, падпільноўвалі, хто на дачу паехаў, а хто на выхадныя дні — у вёску ці яшчэ куды.

Каб злавіць зладзеяў, у Савецкім райаддзеле ўнутраных спраў арганізавалі спецгрупу, якую ўзначаліў С. Склімянок. У яе ўвайшлі таксама супрацоўнікі крымінальнага вышуку В. Кароткі, С. Развадоўскі і курсанты Магілёўскай сярэдняй спецыяльнай школы міліцыі, якія стажыраваліся тут, А. Касцючэнка, Р. Максіменка і А. Леуськоў. Доўга не ўдавалася трапіць на след «скалалазаў», але была ўпэўненасць, што калі-небудзь усё ж перакрыюць ім дарожку. Так яно і здарылася.

Патрулюючы ў тры гадзіны ночы па мікрараёну, яны раптам заўважылі, як на даху аднаго шматпавярховіка быццам бы мільгануў цень. Міліцыянеры адразу ж заблакіравалі выхад з дому і асцярожна падняліся на дах. «Скалалазам» нічога не засталося рабіць, як здацца без прамаруджвання.

Цікава, што іх было трое — адзін з Гомеля, другі — з Калінкавіч і трэці — са Светлагорска. Гомяльчанін здабываў «разведданыя», выклікаў правінцыялаў, і тройка праводзіла «аперацыю». Збыт украдзенага тавару рабілі на рынках вобласці па прымальных цэнах. Следства працягваецца.

# ...А РАЗБОЙНІКА — У МАЛІННІКУ

Бухгалтар аддзела сацыяльнага забеспячэння Светлагорскага райвыканкома спяшалася дадому на абед, як нечакана ў лясным масіве (у горадзе на Бярэзіне яны раздзяляюць мікраёны) перад ёй вырас малады дзяцюк.

— Ґані трыста тысяч! — скамандаваў ён, пакручваючы перад яе носам сцізорыкам.

— Ды ты што? — спужалася жанчына. — Няма ў мяне грошай.

— Кашалёк сюды, інакш...

Жанчына вымушана была аддаць кашалёк, у якім было ўсяго 13 тысяч рублёў. Хлопец узяў яго і пагрозліва сказаў:

— Ідзі сабе ціхенька — і нікому ні слова. Гаўкнеш міліцыі — прыйду да цябе ўжо не з нажом, а пісталетам, — і сам пайшоў прэч.

Праз нейкіх 10—15 хвілін ён спыніўся каля латка і папрасіў прадаўшчыцу прадаць яму пачак вафляў і бутэльку газіраванай вады. Прадаўшчыца пачала даваць яму з кашалька рэшту. Упэўніўшыся, што блізка нікога няма, хлопец выхапіў з яе рук кашалёк (у ім было 382 тысячы рублёў) і пусціўся наўцёкі. Прадаўшчыца, нарабіўшы крыку, пабегла за ім. Да яе падключыўся мужчына, прозвішча якога ўстанавіць не ўдалося, а нехта з жыхароў мікрараёна пазваніў у міліцыю, назваўшы канкрэтны арыенцір, куды пабег рабаўнік. Адтуль выехаў нарад, і агульнымі сіламі дзецюка выкараскалі з маліннікa ў ляску, куды ён зашыўся.

Аказваецца, хлопец, якому споўнілася 22 гады, на «паляванне» ў Светлагорск ездзіў са Жлобіна, дзе жыве і дзе знаходзіцца на ўліку як наркаман. Супраць яго заведзены адразу дзве крымінальныя справы — за разбой і рабаўніцтва. Аб гэтым нам паведамілі ў прэс-цэнтры УУС Гомельскага аблвыканкома.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку смуткуе з выпадку заўчаснай смерці загадчыка гандлёва-эканамічнага аддзялення Генеральнага Консульства Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Штэфана ЛУКАВІНЫ і яго дачкі Зузаны і выказвае глыбокія спачуванні родным і блізкім нябожчыка, Генеральнаму Консульству Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... У ЧЭРВЕНІ З'ЯВІЎСЯ МАНЬЯК

У якасці доказаў з'яўлення ў гэтым раённым цэнтры Мінскай вобласці сексуальнага злачынцы мясцовыя жыхары шэптам перадавалі адзін аднаму некалькі гісторый аб знікненні жанчын, якіх потым знаходзілі мёртвымі. Ускосным пацвярджэннем сапраўднасці з'яўлення маньяка стала інфармацыя аб нібыта ўстаноўленым кантролі з боку міліцыі за адным з мужчын, які вызначаўся не зусім нармальнымі паводзінамі.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік штаба Чэрвеньскага РАУС капітан міліцыі Аляксандр Сцяжко, маньяка ў горадзе няма і не было. Падставай для чутак, хутчэй за ўсё, сталі сапраўды факты заўчаснай смерці некалькіх чалавек, што адбыліся за апошні час. Так, адна з загінуўшых жанчын (мінчанка, што прыехала ў Чэрвень да маці на лета) у навальніцу пайшла за казой. Паводле даных экспертызы, яна загінула ад удару маланкі. Другая жанчына памёрла сваёй смерцю ў лесе, куды пайшла па маліны. Супрацоўнікамі праваахоўных органаў за апошні час было зарэгістравана яшчэ некалькі выпадкаў заўчаснай смерці людзей, але ўсе яны не маюць ніякага дачынення да чутак аб з'яўленні ў Чэрвені маньяка.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*36,6°*

# ПАЗБАЎЦЕСЯ АД ГРЫБКА

**Летам абвастраюцца шматлікія грыбковыя захворванні, але ад гэтай напасці можна пазбавіцца, не звяртаючыся да дарагіх лекаў**

### ГРЫБКОВАЕ ЗАХВОРВАННЕ ПАЛЬЦАЎ НОГ

Добра вымытыя ступні акунуць у моцны вінны воцат. На ноч рэкамендуецца надзець прамочаныя воцатам шкарпэткі.

Карысна рабіць для ступняў халодныя ванначкі. У ваду трэба дадаць па адной сталовай лыжцы солі і соды. Ногі патрымаць у гэтай вадзе, затым апаласнуць чыстай вадой.

Мяту патаўчы ў ступе разам з соллю і закладваць гэту кашыцу паміж пальцамі прыблізна на 1 гадзіну. Паўтараць працэдуру да таго часу, пакуль грыбок не знікне.

### ГРЫБКОВАЕ ЗАХВОРВАННЕ НОГЦЯЎ РУК

Зварыць моцную каву (асадак не выкідваць) і некалькі разоў апусціць у яго рукі. Гэты рэцэпт можна выкарыстаць і для лячэння грыбка на нагах, а таксама для выдалення тоўстай скуры на пятках, якая лушчыцца, пры болях у ступнях і шчыкалатках.

**Ала САКСОНАВА.**
**«АиФ-Здоровье».**

# АДНЫМ СКАЗАМ

У першым паўгоддзі **на долю прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасці** прыходзілася 70,5 працэнта агульнага аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі, **недзяржаўнай** — 29,5 працэнта.

Прамыя **інвестыцыі турэцкіх прадпрыемстваў** у беларускую эканоміку ацэньваюцца ў 1,5 мільёна долараў ЗША.

У гэтым годзе **збавілі тэмпы вытворчасці** прадукцыі сельскія гаспадаркі: у супастаўных цэнах за студзень—чэрвень бягучага года ў параўнанні з леташнім **узровень упаў** на 4 працэнты.

**У 66 мільёнаў рублёў у месяц** абыходзіцца расійскай казне ўтрыманне аднаго дэпутата Дзяржаўнай думы.

За мінулыя выхадныя ў рэспубліцы **зарэгістравана 83 пажары**, урон ад якіх склаў 305 мільёнаў рублёў, **загінула** ў агні тры чалавекі.

За шэсць месяцаў бягучага года **на развіццё сацыяльнай сферы накіравана 3,6 трыльёна рублёў,** што ў параўнанні з мінулым перыядам менш на 29 працэнтаў.

У сталіцы краіны **зменшылася** ў першым паўгоддзі **колькасць угонаў** аўтамабіляў у параўнанні з аналагічным перыядам 1995-га на 7 працэнтаў.

У Японіі набывае **характар агульнанацыянальнай эпідэміі** атручэнне школьнікаў, якое выклікае бацыла 0-157: колькасць такіх хворых складае ўжо 6 тысяч, памерла 5 чалавек.

## ВІНШАВАННІ

*Шаноўная Зінаіда Віктараўна МАЙСЮК!*

*Віншуем вас з юбілеем! Здароўя, шчасця, цёплых людскіх слоў і ўсмешак, паменш будзённых праблем жадаюць вам усе*

**ЗВЯЗДОЎЦЫ.**

*Віншуем з днём нараджэння ЖУРАЎЛЁВА Валерыя. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, паспяхова здаць экзамены, а пасля да нас у адпачынак.*

**Сям'я ПРОНЬКІНЫХ.**

*Дарагая сястрычка **Святлана**, ад шчырага сэрца віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю заўжды быць вясёлай і жыццярадаснай.*

**в. Замасточча, брат Дзіма.**

*Сардэчна віншуем дачку СЯМІЖОН Святлану з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.*

**Тата, мама.**

*Шчыра і сардэчна віншуем з днём нараджэння галоўнага бухгалтара ДБУ-17 ГРЫНЬ Людмілу Фёдараўну! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і дабрабыту. Хай усмешка і поспех заўсёды спадарожнічаюць у вашым жыцці!*

**г. Гомель, калегі па працы.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.08 | 21.22 | 16.14 |
| Віцебск – | 4.52 | 21.18 | 16.26 |
| Магілёў – | 4.58 | 21.11 | 16.13 |
| Гомель – | 5.04 | 21.00 | 15.56 |
| Гродна – | 5.26 | 21.34 | 16.08 |
| Брэст – | 5.33 | 21.29 | 15.56 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 23 ліпеня.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Міхаіла, Фёдара, Іаана, Арсенія**

**К. Якуба, Крыштафа**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па Беларусі неба воблачнае, але без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 20—22, Мінску — 21—23, Гомелі — 22—24, Гродне і Брэсце — 23—25 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, на большай частцы, а ўначы 25-га на паўднёвым захадзе кароткачасовыя дажджы, месцамі з навальніцамі. Тэмпература паветра ўначы 9—14, удзень 17—22, 25-га на ўсходзе да 26 вышэй нуля.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я

Надвор'е ў Мінску і вобласці будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду нязначна знізіцца. У такіх умовах надвор'я паяўленне метэапатычных рэакцый у асноўнага кантынгенту хворых малаверагоднае. Асобы, схільныя да паніжэння артэрыяльнага ціску, могуць адчуваць слабасць, санлівасць. Гэтай групе паказаны прыём лёгкіх танізуючых сродкаў.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**




# НЕ ХАПІЛА АДНАГО МЕТРА

**Правілы дарожнага руху ва ўсіх краінах свету ставяць у абавязак вадзіцелям неадкладна змяншаць скорасць ці спыняцца пры ўзнікненні небяспекі на дарозе. Незалежна ад таго, хто і як стварыў гэтую сітуацыю. Самае галоўнае, каб ад моманту атрымання сігналу-інфармацыі (часцей за ўсё зрокавага) да прыняцця канкрэтных мераў (дзеянняў) праходзіла як мага менш часу.**

Значыць, рашаючае значэнне набывае тут хуткасць рэакцыі вадзіцеля. Агульнапрынятай нормы часу гэтай рэакцыі ў сусветнай практыцы пакуль няма. Па меркаванню спецыялістаў, яна мае даволі шырокі дыяпазон — ад 0,3 да 2,5 секунды.

Большасць сыходзіцца на тым, што за сярэднюю велічыню можна ўзяць адну секунду. Але ў складаных абставінах гэты час можа павялічыцца да 1,5 секунды.

Цяпер паглядзіце па табліцы, якія адлегласці пераадольваюць транспартныя сродкі на розных скорасцях пры той ці іншай рэакцыі вадзіцеля. Як бачыце, пры скорасці 50 км/г., калі вадзіцель рэагуе за 0,8 секунды, яго аўтамабіль, пакуль ён паспее што-небудзь зрабіць, на 11,1 метра наблізіцца да аб'екта небяспекі. Пры рэакцыі ў 1,5 секунды гэта адлегласць скароціцца на 10 метраў, і тыя астатнія метры могуць стаць ракавымі. Прытым, не трэба думаць, што гаворка тут ідзе аб двух розных людзях. Адзін і той жа чалавек у розны час, пры розным псіхафізічным стане можа паказаць неаднолькавую рэакцыю. У самым пачатку паездкі, калі ён яшчэ не ўвайшоў у форму, яна ў яго замаруджаная. Прыкладна праз паўтары гадзіны становіцца аптымальнай, а праз 3 гадзіны стамленне зноў змяншае вастрыню ўспрымання, і час рэакцыі зноў узрастае. Праз 7 гадзін за рулём колькасць вадзіцельскіх памылак значна павялічваецца, а праз 11 вадзіцель проста небяспечны для руху. Уначы з-за цемры і абмежаванага агляду рэакцыя наогул маруднейшая, чым удзень, амаль на 0,7 секунды.

Гаворка пакуль ішла аб часе праходжання сігналу ў цэнтральнай нервовай сістэме чалавека. Затым пачынаюцца канкрэтныя дзеянні. Перамяшчэнне нагі з педалі «газ» на педаль тормаза займае 0,2—0,4 секунды, рукі з руля на рычаг пераключэння перадач — 0,5.

Для поўнага агляду становішча на перакрыжаванні патрабуецца ад 0,5 да 1,2 секунды, а пры складанай сітуацыі да 3,5. Паварот руля ажыццяўляецца ў сярэднім за 0,3 секунды. Усё гэта складае элементы поўнай рэакцыі ад атрымання знешняга сігналу «Небяспека!». Вядома, гэтыя дзеянні не ідуць адно за адным у строгай паслядоўнасці, да пэўнай ступені яны праходзяць паралельна, накладваюцца адно на адно. І нават пры ідэальнай вастрыні рэакцыі ўсё гэта адбываецца не адначасова. Можна з маланкавай хуткасцю зафіксаваць раптоўна ўзнікшую небяспеку, але затрымацца з адказам. Не выключана і адваротнае: не адразу ацаніўшы пагрозу, імгненна прыняць адзінае правільнае рашэнне. Даюць аб сабе знаць усё тыя ж фактары — стамленне, час сутак, вопыт і, вядома, характар небяспекі. Каб любая раптоўная небяспека не захапіла вадзіцеля знянацку, яму заўсёды патрэбна быць напагатове. Калі ж вы няўважлівы за рулём, то і гаворкі няма аб тым, каб зэканоміць тут якія-небудзь долі секунды. Дзейнічаць трэба рашуча і імгненна.

Прывядзём такі прыклад. Наперадзе на пэўнай адлегласці ад аўтамабіля на дарогу выехала конная павозка з грузам. Вадзіцель падаў гукавы сігнал, але скорасць не зменшыў. Палічыў, што павозка паспее вызваліць яму дарогу. Магчыма, яно б так і адбылося, калі б раптам павозка не спынілася. Аказваецца, возчык прапускаў сустрэчны аўтамабіль. Толькі цяпер вадзіцель стаў тармазіць, але ўжо нічога зрабіць не мог. У выніку — аварыя. Заключэнне аўтатэхнічнай экспертызы было адназначнае: вадзіцель, убачыўшы перашкоду, не прыняў мераў, каб спыніць свой аўтамабіль, хаця меў для гэтага ўсе магчымасці. Вынік напрошваецца сам сабою: на любую перашкоду трэба рэагаваць неадкладна, не трацячы часу. Інакш можа здарыцца, што вам не хопіць метра, каб пазбегнуць непрыемнасцей. І апошняе. Скорасць рэакцыі залежыць не толькі ад вадзіцельскага вопыту, але і ад сілы волі, а яе можна развіць у сябе трэніроўкамі і настойлівасцю.

**Адлегласці (у метрах), якія праходзіць аўтамабіль за час рэакцыі вадзіцеля і ў залежнасці ад скорасці**

| Скорасць км/гадз. | Час рэакцыі, сек. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 0,5 | 0,8 | 1,0 | 1,2 | 1,5 | 2,0 |
| 10 | 1,38 | 2,22 | 2,77 | 3,33 | 4,16 | 5,55 |
| 20 | 2,78 | 4,44 | 5,55 | 6,66 | 8,33 | 11,10 |
| 30 | 4,16 | 6,66 | 8,33 | 9,99 | 12,46 | 12,49 |
| 40 | 5,55 | 8,88 | 11,11 | 13,33 | 16,66 | 22,22 |
| 50 | 6,94 | 11,10 | 13,88 | 16,66 | 20,82 | 27,77 |
| 60 | 8,33 | 13,33 | 16,66 | 19,99 | 24,99 | 33,32 |
| 70 | 9,72 | 15,55 | 19,44 | 23,33 | 29,16 | 38,88 |
| 80 | 11,11 | 17,17 | 22,22 | 26,66 | 33,33 | 44,44 |
| 90 | 12,50 | 20,00 | 25,00 | 30,00 | 37,50 | 50,00 |
| 100 | 13,88 | 22,22 | 27,77 | 32,32 | 41,65 | 55,54 |

# ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

## ВЫНІКІ ТЭМАТЫЧНАГА КОНКУРСУ

Падведзены вынікі XXIII тэматычнага рэспубліканскага конкурсу складання двухходовых задач на тэму: «Цыклічнае чаргаванне матаў (не менш трох) у адной фазе на дзве сістэмы гульняў: хады чорнага караля на свабодныя палі і блакіраванне гэтых палёў». Тэма была даволі складанай, таму на конкурс паступіла толькі 9 твораў ад 6 аўтараў: В. Волчака (Лідскі раён), А. Бадзюкова (Круглянскі раён), М. Бельчыкава (г. Барысаў), В. Быкава (г. Мінск), М. Храмцэвіча (г. Бабруйск), С. Цыруліка (Дзятлаўскі раён). Лепшымі прызнаны наступныя задачы.

**І прыз — М. БЕЛЬЧЫКАВУ** *(Барысаў)*



**Белыя**: Крf8, Фh3, Лd4, Лf1, Са7, Сf5, Ка8, Кg5; пп: b4, d2, d3, d6, f7, g3 (14). **Чорныя**: Кре5, Лb6, Сf2, Кd5, п. b7 (5).

1. Се4! цугцванг.

1... Кр:d4, Кр:d6, Крf6 2. Кf3, Фе6, Фf5х.

1... С~, С:d4, К~, Кf6, Л~, Л:d6. 2. Л:d5, Фе6, Фh8, Кf3, Фе6, Фf5х.

Змястоўная і цікавая задача, у якой выканана тэма на фоне чорнай карэкцыі.

**ІІ прыз — В. ВОЛЧАКУ** *(Лідскі раён)*



**Белыя**. Крf5, Фf4, Лb8, Лс8, Са2, Кb1; пп: b5, f6 (8). **Чорныя**: Крс5, Са3, Кс6; пп: b2, d5, d7 (6).

1. Фd2? d4!; 1. Фg3? Сb4!; 1. Фе5? Крb4!; 1. Фе3+? Крd6!

Рашае 1. Фf3! цугцванг.

Тэма конкурсу дапоўнена падманлівымі слядамі, якія абвяргаюцца менавіта тэматычнымі абаронамі. Выдатны першы ход з прадастаўленнем чорнаму каралю трох свабодных палёў. На жаль, у аўтара не атрымаліся падманлівыя сляды з абвяржэннямі: 1... Крd4 і 1... d6.

**І—ІІ ганаровыя водгукі — М. ХРАМЦЭВІЧУ** *(г. Бабруйск)*

**Белыя:** Крf6, Фс6, Лd4, Лd6, Сb8, Сg4, п. с2 (7). **Чорныя:** Крg3, Кh1, пп: с3, h3, h4, h5 (6).

Рашае 1. Лd1! цугцванг.

Цікавая батарэйная гульня, добры першы ход. Некалькі зніжаюць уражанне чорныя пешкі на вертыкалі h.

**Белыя:** Кра5, Фf8, Лh1, Са2, Са7, Кс5, Ке3 (7). **Чорныя:** Крс3, Са1, Кb1; пп: а3, d5 (5).

Рашае 1. Фf5! цугцванг.

Добрая задача ў форме мерэдыта.

**І пахвальны водгук — М. ХРАМЦЭВІЧУ** *(г. Бабруйск)*

**Белыя:** Крd4, Фf8, Лb1, Лh8, Са8, Кb4, Кb5 (7). **Чорныя**: Крb6, Сb8; пп: а6, d6 (4).

Рашае 1. Кс3! цугцванг.

**ІІ пахвальны водгук — С. ЦЫРУЛІКУ** *(Дзятлаўскі раён)*

**Белыя:** Кре3, Фg1, Ла2, Сd4, Сh3, Ке3; пп: а3, b6, d6, е5, f4 (11). **Чорныя:** Крс4, Сс6, Ка5; пп: а4, b7, d7, е4 (7).

Рашае 1. Сf1! цугцванг.

За праверку кампазіцыі на камп'ютэры шчыра дзякую М. Бельчыкаву. Ён будзе судзіць чарговы конкурс складання.

**Суддзя конкурсу — кандыдат у майстры спорту Віктар ВАЎНЕЙКА** *(г. Мінск).*

*І ТАКОЕ БЫВАЕ...*

# ТЫ ШТО, ЛІСА, АШАЛЕЛА?..

Калі апошняй серыяй разблытваўся «Сакрэт трапіканкі» і, адпаведна, жыхары вёскі Кухары Маладзечанскага раёна амаль усе сачылі за разгортваннем падзей кінакарціны, зранку ў паселішчы адбывалася нешта незвычайнае. У двух узняўся страшэнны брэх сабак, якія проста абрывалі ланцугі. А ўстрывожыла іх прысутнасць... лісы.

Як потым сведчылі сяляне, што бачылі драпежніцу, яна была не натуральнага для лісы колеру — брудна-рудога, здзіўляла таксама яе схуднеласць. Але апошняя акалічнасць не перашкодзіла лісіцы агрэсіўна накінуцца на аднаго з самых злых сабак вёскі.

Відавочцы назіралі таксама, як звар'яцелая драпежніца са злосцю кідалася на іншых вясковых сабак, якіх давялося бараніць. Адзін жыхар, схапіўшы кій, адганяў нахабную «госцю» ад дзвюх аўчарак, баючыся, што сяброў чалавека пераможа лясны звер. Невядома чым гэта можна растлумачыць, аднак ліса з воўчым аскалам нават накінулася на збянтэжанага гаспадара. На шчасце, побач аказаліся вілы. Упаляванага такім чынам звера прыйшлося адразу ж закапаць, бо, паводле сведчання старажылаў (а гэта ўжо трэці за 20 гадоў «напад» лісаў на вёску) раз'юшаная звярына была шалёнай.

Добра, што ўсё так абышлося, вось толькі пакусаныя лісой сабакі і каты з суседніх хутароў, дзе яна разбойнічала днём раней, ці не прынясуць лішнія турботы?

**Сяргей КОЗЕЛ, навучэнец МПК.**

*г. Мінск.*

**Гэта неверагоднае здарэнне мы папрасілі пракаменціраваць галоўнага санітарнага ўрача Маладзечанскага раёна Віктара БЕЛІКА.**

— Пра выпадак у вёсцы Кухары, — гаворыць Віктар Аляксеевіч, — нічога сказаць не магу. Магчыма, ён і быў, але нам пра яго ніхто не паведамляў.

А вось у в. Лебедзева ашалеў сабака, які знаходзіўся на прывязі. Ён накінуўся на гаспадароў, пакусаў іх. Давялося яго забіць: экспертыза сапраўды ўстанавіла факт шаленства. Усе, хто даглядаў, карміў сабаку, затым прайшлі адпаведны курс лячэння.

У в. Ізабеліна забрыла ліса, як потым высветлілася, яна была шалёная. Яе адразу знішчылі, а мясцовым жыхарам зрабілі прышчэпкі. У даным выпадку на ногі была паднята амаль уся раённая медыцына.

На жаль, факты шаленства не толькі дзічыны, але і свойскай жывёлы, больш за ўсё сабак і катоў, не такія ўжо рэдкія. Толькі сёлета за паўгода ў нашым раёне за дапамогай у сувязі з гэтым звярнуліся 250 чалавек. І яна, вядома, усім была аказана.

Хачу зазначыць, што літаральна ў кожным выпадку аб праяўленні магчымага шаленства абавязкова трэба паведаміць ветэрынарнай службе гаспадаркі, а яна ў сваю чаргу — раённай. Менавіта гэтыя спецыялісты на працягу 10 дзён пільна назіраюць за падазраваемай жывёлінай і робяць свае канчатковыя вывады. Ні ў якім разе нельга тут дапускаць некампетэнтнай самастойнасці: забіваць такую істоту, здымаць з яе скуру, закопваць. Паўтараю — гэта справа ветэрынараў.

Чаму я так больш-менш падрабязна гавару аб гэтай неардынарнай з'яве? Хочацца аднаго, каб людзі з усёй сур'ёзнасцю да яе паставіліся. Ад гэтага залежыць не толькі здароўе, а іншы раз і жыццё чалавека. Наколькі ведаю, у суседнім Смаргонскім раёне жанчына, якую ўкусіла шалёная ліса, адразу не звярнулася да медыкаў і памерла. Таму, каб не было такіх трагедый, трэба неадкладна звярнуцца да ўрача, які і зробіць абавязковую прышчэпку. Варта заўсёды памятаць, што папярэдзіць любую хваробу, тое ж шаленства, значна лягчэй (хоць таксама нялёгка), чым яе потым лячыць: лякарствы і прышчэпкі зараз каштуюць вельмі дорага.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ , 25 ліпеня

### Беларускае тэлебачанне

**9.45** Каралеўскае паляванне. **10.25** «Размова з майстрам». Дак. фільм. **15.00** Навіны. **15.10** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.35** Да Дня незалежнасці Беларусі. «Іосіф Гашкевіч». Тэленарыс. **16.05** Узорны ансамбль танца «Весялушка». Перадача 2-я. **16.35** «Сусвет». Навукова-папулярны тэлечасопіс. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.05** «Змяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой...» Тэленарыс. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «01 слухае». Да Дня пажарнай службы Беларусі. Прымае ўдзел першы намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення пажарнай службы МУС Э. Р. Барэеў. Прамая лінія. **19.50** Музычны антракт. **20.05** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Спартыўны тэлекур'ер. **22.10** «Каралева Марго». 16-я серыя. **23.10** «Віншуем Вас!» Музычная праграма да Дня пажарнай службы Беларусі. **24.00** Навіны. **0.15** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**8.15** «Новая ахвяра». **9.05** «Каб памяталі...» Станіслаў Хітроў. Вядучы Л. Філатаў. **9.45** «Клуб падарожнікаў». **10.30** «Казляня». Мультфільм. **10.40** Смак. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.55** Алімпійскія гульні ў Атланце. **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.40** Цін-Тонік. **15.04** «Кацярок». Мультфільм. **15.20** «Элен і хлопцы». **15.45** Алімпійскія гульні ў Атланце. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Лато-Мільён. **19.00** Дзівосныя гісторыі ў новай праграме «Мая сям'я». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Ален Дэлон у фільме «Чалавек, які спяшаецца». **22.35** Алімпійскія гульні ў Атланце.

### Канал «Расія»

**10.20** Дзелавы аўтограф. **10.30** Алімпіяда-96. Плаванне. Бокс. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.00** Нічога, акрамя... **17.15** Экспавідэа. **17.25** Алімпіяда-96. Валейбол. **18.25** Раз на тыдзень. **19.35** Алімпійскі кур'ер. **20.05** «Санта-Барбара». **21.00** Надвор'е. **21.05** Даміно Міхаіла Баярскага. **21.35** «Мактуб: закон пустыні». 4-я серыя. **22.40** Алімпіяда-96. Бокс. Дзюдо.

### Расійскія універсітэты

**12.00** «Пяць мінут». **12.05** Навука-відэа. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Дж. Гершвін. Сюіта з оперы «Поргі і Бес». **13.25, 16.45** Навіны. **13.30** «Марскі воўк». Маст. фільм. **14.45** Жыццё і смерць Осіпа Мандэльштама. Частка 2-я. **15.30** «Гастролі». Праграма В. Смехава. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Муззон».

### НТБ

**17.00** Дак. фільм. «Дзікая прырода: барацьба за жыццё». 3-я серыя. **17.30** Жаночыя гісторыі. «Ланкастэр: гісторыя кахання». 9-я серыя. **18.35** Дак. фільм. «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». **18.55** Прэмія «Оскар». Шэр ў фільме Пітэра Багдановіча «Маска» (ЗША). **21.35** Алімпійская гадзіна з рускага дома. **22.30** Часінка. **23.20** Кіно не для ўсіх. Марта Месараш. Маст. фільм «Дзённік для маіх бацькоў» (Венгрыя).

### Санкт-Пецярбург

**12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** Дэтэктыў. «Зона». 4-я серыя. **15.05** «Пераступіць рысу». Маст. фільм. 1-я серыя. **16.40, 20.35** Тэлеслужба бяспекі. **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** «Аркестр». Фільм-канцэрт. **20.50** Спартыўны агляд. **21.00** Дэтэктыў. «Зона». 4-я серыя. **22.15** «Пераступіць рысу». 2-я серыя.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает компания
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
тел. 78-08-98

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4107.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12